памяць XX стагоддзя 1922

# На чужыне

**Кастусь ТАРАСАЎ**

Кожная падзея мае бачныя прычыны і непрадбачныя наступствы. Ну, і, зразумела, змест. Увесну 1922 года генсекам РКП(б) быў абраны Сталін. Людзям, якія прагаласавалі за яго, здавалася, што ў канкрэтных варунках яны зрабілі не найгоршы выбар. Бальшыня з іх колькі гадоў пазней страціла жыццё дзякуючы гэтай неабачлівасці. Восень 1922 года адзначана пачаткам перадач радыёстанцыі імя Камінтэрна ў Расіі (у Амерыцы ўжо дзейнічалі 7 камерцыйных радыёстанцыяў), што з хуткасцю ператварала мільёны людзей у спажыўнікоў штампаў «эфіру». У 1922 годзе РСФСР і Германія заключылі сакрэтную дамову аб выкарыстанні нямецкімі ваеннымі расійскіх палігонаў і аэрадромаў для падрыхтоўкі афіцэраў. Гэтая дапамога адраджэнню забароненай германскай арміі дала «першае прызнанне» Савецкай Рэспублікі. Усё гэта дастаткова змястоўныя падзеі, аднак яны не адлюстроўваюць тое, што было галоўнай адметнай рысай жыцця мноства людзей у 1922 годзе — страты стабільнасці, сацыяльнага статусу, радзімы, сэнсу жыцця. Найбольш паказальная з'ява таго часу — эміграцыйныя патокі мільёнаў людзей. Магчыма, у такой самай прапорцыі адбывалася эміграцыя ў XVII стагоддзі пад час рэлігійных войнаў паміж каталікамі і пратэстантамі, вынікам якой сталася ўзнікненне Новага Свету.

Восень 1922 года адзначана высылкай з савецкай Расіі некалькіх сотняў навуковай і творчай эліты. Высылка была дэманстратыўнай, відаць ленінскі ўрад жадаў пахіснуць сваю здабытую крывавую славу. Бо папярэднія гады засведчаны расстрэламі закладнікаў, 50 тысяч «белых» у Крыму, ленінскімі ўказамі на вынішчэнне духавенства і г. д. Уласна кажучы, «гуманная» высылка невялікай колькасці вядомых асобаў ніяк не ўраўнаважвала папярэдняе вычышчэнне народа ад найлепш адукаванага слоя. Відавочна, што ўголас быў выказаны астракізм усёй апазіцыі. Акцыя літасці да «ворагаў працоўных» нібыта канчаткова вырашала праблему з дысідэнтамі сярод абавязанай служыць народу інтэлегенцыі.

Раней, перад пагрозай фізічнага вынішчэння эміграваў на Захад некалькі мільёнаў чалавек, якія рассеяліся па розных краінах свету, але найбольш у Германіі, Францыі, Чэхіі, Балгарыі. Эміграцыя з Беларусі склала каля паўмільёна чалавек, хаця цяжка акрэсліць межы, у якіх трэба праводзіць адпаведныя падлікі. Калі падлічваць у межах БНР — дык лічба ўзрасце ўтрая. Але беларуская кампанента (гэта значыць нацыянальна арыентаваная) не была надта вялікая. Аднак упершыню гэта была менавіта беларуская эміграцыя, якая пакідала радзіму (ва ўсялякім разе яе савецкую частку) з ідэалагічных падставаў як бок, варожы бальшавіцкаму таталітарызму, з прынцыповага нежадання жыць у былой імперыі з новай назвай. Галоўным асяродкам гэтай эміграцыі стала Прага, дзе дзейнічаў урад БНР, ачолены аўтарытэтным Пётрам Крачэўскім. Меншыя беларускія групоўкі знайшлі прытулак ў Латвіі і Літве, але яны не здолелі структуравацца дзеля жыццяздольнасці.

Пры ўсіх пакутах, якія выпалі на долю гэтай хвалі эміграцыі, што патрапіла ў разбураныя вайной краіны, дзе і ўласныя грамадзяне не мелі заробку і працы, адбылося тое, чаго не адбылося ў 1864 годзе, калі паўстанцы, вымушаныя эміграваць з Беларусі, не стварылі ніводнай арганізацыі беларускага зместу, далучыўшыся да рускай ці польскай «секцыяў» ці суполак.



Група беларускіх эсэраў. Прага. 1921.

Эміграцыя 1922 года, абапіраючыся на здабыткі БНР і назапашаныя ідэі двух пакаленняў беларускай інтэлігенцыі, стварыла ўласную плынь. У хуткім часе савецкі бок быў змушаны распачаць дзеянні па расколу эміграцыі (прапаганда «вяртання на радзіму дзеля будаўніцтва новай шчаслівай Беларусі»). Людзі менш баяцца смерці, чым бессэнсоўнасці жыцця. Адзінота і бесперспектыўнасць дзейнасці на чужыне, адсутнасць вялікай аўдыторыі, зайздрасць да тых, хто будуе дзяржаўнасць у роднай краіне, вярнулі у БССР частку інтэлігенцыі. Усе яны неўзабаве сталі ахвярамі рэпрэсіяў.

Гісторыя не мае варыянтаў (яны, так бы мовіць, выдуманыя: магло б быць лепш, калі б здарылася інакш). Людзі таго часу рабілі тое, што дыктавалі ім абставіны. Мы ведаем, што яны напакутваліся. Справядлівыя словы сказаў наш сучасны таленавіты паэт: «чужына джаліць, як змяя». Эміграцыя ў 1922 годзе зведала атруту чужыны. Аднак насуперак сваім становішчу вымушаных эмігрантаў яны здолелі зрабіць больш, чым калі б мелі менш волі і мужнасці, менш веры ў будучыню Беларусі. ■

ГРАМАДСТВА

# Восеньска-зімовая адзінота

## Па вёсках Случчыны зарэгістравана 5.400 старых, якія жывуць адны. Яны баяцца не смерці. Яны баяцца, што пасля скону іх не хутка знойдуць

**Галіна ВОЙСКАЯ**

**Улетку дзіцячыя галасы ды дагледжаныя агароды здольныя ствараць ілюзію, што жыццё ў беларускіх вёсках ідзе парадкам. Але пачынаецца школа, унукаў забіраюць, бульбу выкопваюць, і па восеньскай слоце будуць ужо, быццам здані з мінулага, сноўдацца ў дзіўных апранахах з кійкамі-падпоркамі адно толькі бабкі ды нешматлікія дзядкі.**



«Ці ўсе ў вас перазімавалі?» — пытаюцца ў іх звычайна ўвесну, калі агародныя клопаты прыводзяць гарадскіх у вёску. І штогод свая сумная гісторыя: «Не. Соф'я памерла. Пайшла ў склеп, несла жар, каб бульба не памерзла, ды і памерла там. Ці ўчадзела, ці так упала? Хто ведае. Старая. 87 гадоў. Раніцою знайшлі. Святла ў вокнах не было, дык мы і пайшлі шукаць».

Святло ў вакне — гэты сентыментальна-лірычны сімвал набывае ў спусцелых вёсках жорсткую рэальнасць. Калі зімовым ранкам святло ў суседскай хаце гарыць, значыць, суседка сёння прачнулася. Не трэба збірацца грамадою, стукаць ды заглядаць у вокны... Памерці на адзіноце — гэта страшна, але яшчэ страшней, што знойдуць не хутка і ў якім выглядзе...

Па вёсках Случчыны зарэгістравана 5 тысяч 400 старых, якія жывуць адны. Рэгіструе іх адпаведная служба, а вось аддзяленне сацыяльнай дапамогі на даму райвыканкама павінна забяспечваць дагляд за гэтымі людзьмі — спрацаванымі, хворымі, нямоглымі. Існуе «Палажэнне аб надомным абслугоўванні», дзе пералічваюцца абавязкі сацыяльнага работніка. Калі б усё было так, як там напісана, дык, па сутнасці, старыя проста мелі б прыслугу, якую наймае для іх дзяржава. Праўда, не на кожнага паасобку, а на 8 чалавек — гэта норма на стаўку сацыяльнага работніка. Гэты работнік павінны і прыбраць, і памыць, і зварыць. Калі начальніца Слуцкага аддзялення пачала гаварыць пра тое, што сацыяльны работнік — калі трэба — і столь пабеліць, і бульбу пасадзіць, і сена скосіць, і дровамі забяспечыць, у мяне заняло дух. Але ацвярэзіла простая думка: гэта ж колькі трэба плаціць людзям, каб яны так слугавалі! Насамрэч, аклад сацыяльнага работніка, што абслугоўвае старых на даму мізэрны. Але гэта не ёсць прычынаю, што па ўсім Слуцкім раёне ўдалося наняць толькі 76 чалавек. Знайшлося б і болей жадаючых нават на такі аклад, але ў дзяржавы няма грошай на большую колькасць людзей. Такім чынам, на надомным абслугоўванні па раёну знаходзіцца 740 пенсіянераў. Можна было б сказаць, што астатнія 4 тысячы 660 з зарэгістраваных адзінокіх старых пакінуты на волю лёсу, каб не тая акалічнасць, што жыццё ўзятых на абслугоўванне і не ўзятых нічым паміж сабою не адрозніваецца.

Сёлета мне пашчасціла асабіста пазнаёміцца не толькі з адным такім работнікам, але нават з інспектарам, які спецыяльна наняты кантраляваць ягоную работу. Сонечным ранкам у веснічкі бадзёра прасунуліся дзве кабеціны, гучна па-начальніцку прывіталі старую і па-гаспадарску патупалі ў хату. Пра што там гаварылі, я не чула, але праз пару хвілінаў жанчыны выйшлі з нейкім ледзьве не пагрозлівым воклічам: «Каб у хаце чыста было! Ну, і каб не хварэлі, бабуля!» Мінаючы мяне, яны вырашылі дадаць яшчэ адно распараджэнне: «А моладзь няхай двор падмяце!» Задаволеная прылічэннем да моладзі, я тым не менш заступіла начальніцам дарогу, каб даведацца, што ж усё-такі адбываецца. Высветлілася, што хутка мае адбыцца праверка яшчэ больш высокага рангу, і вось сацыяльны работнік ды інспектар над ім ходзяць па дварах ды камандуюць бабулям трымаць сябе ды гаспадарку ва ўзорным парадку ды яшчэ папярэджваюць, што калі будуць хоць якія скаргі, дык сацработніка зусім выганяць. А гэта ўжо дастатковая пагроза для старых, каб напалохацца.

Сапраўды, ёсць дзве патрэбы, калі сацыяльны работнік дапамагае. Штогод старшыня сельсавета выпісвае торф, старшыня калгаса — збожжа, але парупіцца пра машыну ды пра каня, каб прывезці, трэба самім, а гэтую праблему можна вырашыць толькі ў канторы — гэта далёка ды і прыехаўшы можна вярнуцца ні з чым, назаўтра едзь, прасі зноў. Вось тут сацработнік і адпрацоўвае свой мізэрны аклад (са складання ім штомесячных справаздачаў, старыя ніякай карысці не маюць). Зрэшты, здаецца, выпісваючы торф, старшыня мог бы адначасова выпісваць і нарад на машыну, але дзе нам ведаць клопаты старшыняў. А прывезены і звалены ў кучу перад хатаю гэты торф бабулі перацягваюць пад паветку самі, як і самі ходзяць пад вокнамі суседак, якія не запалілі зімовым ранкам святла.

Шмат у якіх вёсках, дарэчы, няма мажлівасці трымаць сацыяльнага работніка, бо няма ніводнага працаздольнага чалавека. А яшчэ няма аўтобуса, каб даехаць да някепска абсталяванай калгаснай паліклінікі (увогуле, сяк-так дабраўшыся, можна пабачыць на дзвярах замок — дактары полюць норму калгасных буракоў), няма крамы — аўталаўка два разы на тыдзень прывозіць толькі хлеб ды гарэлку, няма лазняў — ні агульных, ні на ўласных падворках. Зрэшты, лазняў ніхто не пабурыў, іх проста і не было. Забяспечваючы квітненне калгаснай сістэмы, сённяшнія пенсіянеры за нялюдскаю працаю на дзяржаву ніяк не парупіліся пра пабытавыя выгоды. Адно толькі змаглі выпіхнуць дзяцей у гарады, далей ад таго пекла, у якім гаравалі самі. Вось і маем. Самая шаноўная жывёліна ў гаспадарцы — кот. Цэлае лета бабуля сварыцца на ўнукаў, каб не крыўдзілі, бо сыдзе кот з двара, дык «зімою памру, пацукі твар аб'ядуць». ■

РЭХА

# «Конструктивный» бутерброд

Посмотрев «Политические диалоги» 21 сентября, можно сделать вывод, что, кроме поддакивания друг другу и всеобщего одобрямс, никакого диалога мы не услышали (как и на всех остальных «диалогах»). Оказалось, что трое умников, сидящих за круглым столом, всю неконструктивную оппозицию считают дураками, а себя и себе подобных конструктивными и правильными. Позвольте не согласиться, граждане Л.Сечка, Г.Пашковский, Дмитриев. Весь этот бред, идущий с экранов БТ, не хочу комментировать, но вот последнее высказывание Сечки меня заинтересовало. То ли «неконструктивной» оппозиции, то ли Лукашенко Леонид Сечка предложил диалог за достойное существование Беларуси. Я уверен, что весь народ жаждет достойного существования, а не пустопорожнего диалога, навязываемого «конструктивной оппозицией». И сейчас эта «конструктивная оппозиция», как клоп в щель, пытается влезть в переговоры, а не в диалог оппозиции и власти. Диалог вам никто не мешает вести ни с бывшим президентом, ни с народом, ни с оппозицией. Ни напрямую, ни через СМИ. Про вас, «конструктивную оппозицию», я нигде не слышал, не читал и не видел, где вы, «ау»? А про настоящую оппозицию я постоянно читаю в газетах, вижу по телевизору, о ней регулярно говорит даже Лукашенко. Я вижу, что они хотят экономических преобразований, дружбы и сотрудничества со всеми странами мира, социальной защиты и прав человека. А от «конструктивной оппозиции», во главе с Лукашенко, я слышу: свой народ за цивилизованным миром я не поведу. Что, лучше в дерьме по горло сидеть? Так что, господа «конструктивные оппозиционеры», ведите свой диалог с кем угодно. А если очень захотелось переговариваться, то можете приехать ко мне в гости, в Вилейку. Поговорим о том о сем, попьем кофе, съедим по бутерброду.

**Владимир МАЛЯРЧУК,**
**г.Вилейка**

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі. Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996
Выдаецца з 16 студзеня 1998 г. В.а. галоўнага рэдактара і заснавальнік Павел Жук. Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ. Адрас для карэспандэнцыі: 220034, г. Мінск, вул. З.Бядулі, 6-47. Тэл./факс: 236-89-40.
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 602 Нумар падпісаны ў друк 21/09/99 (15:00) Наклад — 21.120